*Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка*

***№15 красавік 2012***

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

***Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь***

## Андрэй Саннікаў і Зміцер Бандарэнка на волі



***Экс-кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў і яго бліжэйшы паплечнік Зміцер Бандарэнка вызваленыя з астрогаў. Як яны заявілі, зараз іх галоўная задача вызваленне ўсіх палітвязняў.***

## Дзяржава вельмі шмат вінна Андрэю Саннікаву



У гэтыя велікодныя дні мы цешымся з нагоды не толькі Ускрасення Збаўцы, але і таго факту, што Андрэй Саннікаў, былы кандыдат у прэзідэнты нашай дзяржавы, на волі і можа сустрэць свята з сваёй сям’ёй. Радасць усіх нармальных людзей у такой сітуацыі зразумелая і натуральная. Аднак дзякаваць дзяржаўнай уладзе няма за што. Дзяржава яшчэ вельмі шмат вінна персанальна Андрэю Саннікаву, яго сям’і, усім грамадзянам, якія аддалі свае галасы за гэтага кандыдата на вышэйшую ў краіне пасаду. Гэтыя галасы былі растаптаныя 19 снежня 2010 году на пляцы ў Менску, каваныя боты амапаўцаў білі не толькі па целе палітыка Саннікава, яны білі па грамадзянскай годнасці ўсёй нацыі.

У нашай радасці за вызваленне Саннікава мы не маем права забывацца, што сталася галоўнай прычынай таго, што яго ўрэшце выпусцілі з вязніцы. Не маем права забывацца пра тое, што паважанага чалавека несправядліва засудзілі, амаль паўтары гады трымалі ў турмах у жорсткіх умовах, здзекваліся і верагодна катавалі. Хто кампенсуе слёзы яго маці за гэты перыяд, хто верне перажыванні і здароўе жонкі, разлуку малога сына з бацькам, усе маральныя і матэрыяльныя страты гэтай сям’і?!

Дзяржава застаецца вельмі шмат віннай Андрэю Саннікаву! Гэтак сама вінна яна і іншым палітвязням, якія ўжо выйшлі на волю, альбо застаюцца за кратамі. Дзяржаве няма за што дзякаваць!

*Уладзімір Хільмановіч*

## “Вясна” адзначае 16-ыя ўгодкі дзейнасці

16 год таму, пасля брутальных затрыманняў у час “Чарнобыльскага Шляху”, пачыналася праца групы людзей, якая занялася зборам і распаўсюдам інфармацыі пра затрыманых, а таксама спрабавала здзейсніць ім матэрыяльную дапамогу. Так узнікла арганізацыя “Вясна-96”, цэнтральным кірункам працы якой стала дапамога ахвярам палітычных рэпрэсій і інфармаванне грамадскасці пра гэтыя рэпрэсіі.

Пра гісторыю стварэння Праваабарончага цэнтру “Вясна” яе заснавальнік і нязменны кіраўнік Алесь Бяляцкі распавядае ў інтэрв'ю да кнігі “Наша Вясна”:

“Вясна” пачыналася тады, калі цэлую вясну 96-га году ішлі масавыя акцыі, якія адбываліся з розных прычынаў. У красавіку – у звязку з так званай Саюзнай дамовай з Расеяй, якую Лукашэнка збіраўся заключаць з Ельцыным. Перад гэтым адзначалася 15 сакавіка – Дзень Канстытуцыі, затым 25 сакавіка -- Дзень Волі, калі прайшла вялікая дэманстрацыя па праспекце Незалежнасці да Опернага тэатру і будынку Белтэлерадыёкампаніі на Чырвонай, дзе патрабавалі прамога эфіру, бо тады ўжо былі праблемы з інфармацыяй і яе распаўсюдам. Тады была пачата крымінальная справа за парушэнне парадку, але яна нічым не скончылася. А 26 красавіка на плошчы Якуба Коласа сабралася 40-50 тысяч чалавек, якія пайшлі затым па праспекце Незалежнасці да цырка і па вуліцы Багдановіча да Палацу спорта, дзе былі праведзены мітынгі. У час гэтай дэманстрацыі міліцыя перакрыла дарогу машынамі, былі выстаўлены кардоны АМАПу, і ўсё гэта суправаджалася жорсткімі сутычкамі з людзьмі. У той дзень было арыштавана больш за 200 чалавек, пачата чарговая крымінальная справа... ...мне падаецца, менавіта тады Лукашэнка вырашыў жорсткасцю сілавых дзеянняў спыніць масавыя акцыі.



У гэтай сітуацыі ўзнікла група людзей, якая занялася зборам і распаўсюдам інфармацыі, а таксама матэрыяльнай дапамогай: мы шукалі грошы, прадукты харчавання для тых, хто сядзеў па крымінальнай справе і на “сутках”. У прыватнасці, адзін чалавек перадаў нам харчы і мы потым іх раздавалі сем’ям рэпрэсаваных. Гэта было не так шмат, але – чым маглі… Гэтая група працавала прыкладна месяц.

Цэнтральным кірункам нашай працы стала дапамога ахвярам палітычных рэпрэсій і інфармаванне грамадскасці пра гэтыя рэпрэсіі. Усё рабілася на абсалютна добраахвотных пачатках. У той час я працаваў дырэктарам літаратурнага музея Максіма Багдановіча, быў сакратаром Управы БНФ. Улічваючы, што тады Фронт быў асноўнай актыўнай вулічнай сілай, найбольш ахвяраў было якраз сярод сяброў БНФ.

Сваё 16-годдзе арганізацыя адзначае выхадам кнігі “Наша Вясна” - гэта гісторыя ў асобах. Ініцыятарам выдання з’яўляецца Алесь Бяляцкі.

# Суцэльная паласа

***Народная мудрасць сцвярджае, што жыццё чалавека можна параўнаць з чаргаваннем белых і чорных альбо, калі заўгодна, светлых і цёмных палосаў. Напэўна, у жыцці кожнага асобнага чалавека так і ёсць. А вось калі возьмем існаванне дзяржавы, то нешта гэтая філасофія не спрацоўвае. Яскравы тут прыклад – наша Рэспубліка Беларусь. Як выбралі сабе беларусы ў 1994-ым годзе прэзідэнта, так і надышла суцэльная чорная змрочная паласа.***

Васямнаццаты год запар няўхільнае паслядоўнае пагаршэнне сітуацыі. Пагаршэнне ва ўсіх сферах: гаспадарчай, фінансавай, становішчы з правамі чалавека і дэмакратыяй, дэградацыя грамадскай маралі, паглыбленне грамадзянскай нянавісці. Беларусь становіцца ізгоем усёй Еўропы, усё больш робіцца ізаляванай ад цывілізаванага свету. Калі ўвесь кантынент адчыняе межы, нават суседзі Украіна і Расея, дзе кіруюць аўтакратычныя рэжымы, здолелі дамовіцца пра бязвізавы ўезд сваіх грамадзян у многія краіны, Беларусь усё часцей называюць “чорнай плямай” на мапе Еўропы.



Дайшло да таго, што краіну пад сінім небам пакінулі ўсе амбасадары Еўразвязу і рэальнай стала пагроза замарожвання альбо ўвогуле ліквідацыі дыпламатычных стасункаў. Уладар Беларусі без ценю сумневу адкрыта абражае прадстаўнікоў заходніх дзяржаваў і гатовы спыніць з імі ўсялякія кантакты. Прычына такой агрэсіўнай пазіцыі спальвання ўсіх мастоў – сур’ёзнае маскоўскае заплечча. Крамлю выгодная палітычная і дыпламатычная ізаляцыя Беларусі, гэта абсалютна супадае з яго інтарэсамі. І ўжо многія палітолагі з сур’ёзных аналітычных цэнтраў прагназуюць, што Беларусь як суверэнная дзяржава знікне з палітычнай мапы свету зусім хутка – ужо ў 1915 годзе. Знікне – гэта значыць будзе цалкам інкарпараваная ў склад новай расейскай імперыі. Пуцін ужо прымераў на сябе тогу збіральніка славянскіх і постсавецкіх зямель. У дачыненні да Беларусі ён ніколі асабліва і не хаваў сваіх імперскіх планаў. І калі Ічкерыю трэба было знішчыць дывановымі бамбардзіроўкамі, на тэрыторыю суверэннай Грузіі ўводзіць танкі, то Беларусь можна заваяваць куды прасцей – у дадатак да ўжо зробленага дастаткова паставіць тут сваю атамную станцыю і стварыць адзіную рублёвую прастору. Заробкі працаўнікоў на тых буйных беларускіх прадпрыемствах, якія ўжо прыватызаваныя Масквой, адразу выраслі ў дватры разы. Такая вось просценькая прынада, заглыкнуўшы якую, беларусы будуць змушаныя прызнаць пратэктарат Расеі ўжо нават дэ-юрэ. Невыпадкова адзін з нядаўніх дэмакратычных кандыдатаў у прэзідэнты Уладзімір Някляеў адазваўся на мінулым тыдні лістом-зваротам. Па-сутнасці гэта крык адчаю, прычым асэнсаванага і звернутага да народу.

Ну а вярхоўная ўлада, у адказ на еўрапейскія санкцыі, дарэчы, досыць стрыманыя і памяркоўныя адрэагавала ў сваім стылі. Як кажуць, чорнаму сумленню і качарга шыбеніцай здаецца. Зноў “ворагамі народу” абвʼяўлены грамадска-палітычныя лідары і актывісты. Складзены адмысловы спіс невыязных з краіны. На мяжы ведамых прадстаўнікоў апазіцыі затрымліваюць і не выпускаюць з Беларусі, хоць гэта абсалютна незаконна. Маўляў, нас не пускаюць у краіны Еўропы, то і вы нікуды не паедзеце. Але які можа быць закон у дзяржаве, дзе кандыдатаў у прэзідэнты яшчэ да абвяшчэння вынікаў выбараў жорстка збіваюць, садзяць у турму і катуюць, дзе чалавека за вывешванне нацыянальнага сцягу даводзяць да галадавання на мяжы жыцця і смерці? Тут прывяду адно яскравае параўнанне. У тыя ж сама дні, калі ў Віцебску засуджвалі Сяргея Каваленку да больш чым двух гадоў турмы за бел-чырвона-белы сцяг, у гэтым жа горадзе баявы сабака ратвэйлер, выведзены на вуліцу гаспадыняй без намордніка, пакусаў 10-гадовую дзяўчынку. Дзіця ад страшнай жывёліны адбіў рыдлёўкай выпадковы мужчына. А злачынную гаспадыню сабакі суд аштрафаваў на 450 тысяч рублёў. Вось такія законы, такія суды, такое разуменне справядлівасці: за вывешаны сцяг – год турмы, за калецтва дзіцяці – крыху больш 50 даляраў штрафу. І такая ўлада хоча каб людзі маўчалі, калі яна знішчае краіну і топча ўсе нормы маралі?!

*Уладзімір Хільмановіч*

# Хроніка правапарушэнняў

## *Гарадзеншчына, красавік*

На грамадзяніна Гародні Уладзіміра Фяненку распачата адміністрацыйная справа за нібыта адмову прайсці дактыласкапію. **4 красавіка** ў судзе Ленінскага раёну пачаўся яе разгляд. Уладзіміра Фяненку некалькі разоў праз тэлефон супрацоўнікі міліцыі настойліва запрашалі з’явіцца ў міліцыю і здаць адбіткі пальцаў, на што ён адказваў, што гэтая працэдура мусіць адбывацца без парушэння заканадаўства і канстытуцыйных правоў.

А яшчэ **20 лютага** бягучага году на Фяненку быў складзены завочны пратакол нібыта пра адміністрацыйнае правапарушэнне. У пратаколе напісана, што ён “отказался от дактилоскопической регистрации, чем оказал неповиновение законным требованиям сотрудника ОВД”. На адваротным баку пратакола напісана, што Фяненка адмовіўся ад подпісу. Але Уладзімір Фяненка ўбачыў гэты пратакол толькі тады, калі яго выклікалі ў суд.

Гарадзенец Руслан Пяцько, якога незаконна засудзілі нібыта за непадпарадкаванне патрабаванню службовай асобы прайсці дактыласкапічную рэгістрацыю, атрымаў адказ на сваю скаргу ў Гарадзенскі абласны суд. У гэтай скарзе Пяцько аспрэчваў рашэнне суддзі Алены Пятровай, якая засудзіла яго да штрафу ў 700 тысяч беларускіх рублёў. Суддзя абласнога суду Мікалай Рачынскі падыйшоў да разгляду скаргі фармальна і не захацеў улічыць аргументы засуджанага, якія былі выкладзеныя ў скарзе. У пастанове абласнога суда сцвярджаецца, што сам Пяцько ў судзе Ленінскага раёну не аспрэчваў, што адмовіўся выканаць патрабаванне супрацоўніка міліцыі прайсці абавязковую дактыласкапію. Гэта ж нібыта пацвердзіў і сведка – калега Руслана Пяцько па працы. Насамрэч усё было зусім не так. Пяцько быў катэгарычна не згодзен з пастановай абласнога суду і накіраваў скаргу ў Вярхоўны суд Беларусі.

Грамадскі актывіст і праваабаронца з Астраўца Іван Крук накіраваў адкрыты зварот у Упраўленне Вярхоўнага камісара ў Камітэце ААН па правах чалавека. Копія гэтага звароту пайшла таксама міністру замежных спраў Рэспублікі Беларусь. У сваім звароце Іван Крук звярнуў увагу на тое, што пастаяннае прадстаўніцтва Беларусі пры аддзяленні ААН у Жэневе аспрэчвае рэгістрацыю яго індывідуальнай скаргі, якая была пададзена ў КПЧ яшчэ **23 снежня 2009 году** і была зарэгістраваная. Сакратарыят ААН у адпаведнасці з правіламі пераслаў Івану Круку афіцыйны адказ беларускай дзяржавы. З гэтага дакумента вынікае, што ўрад Рэспублікі Беларусь мае намер рас-




цэньваць рашэнні, якія могуць быць прынятыя Камітэтам па такіх скаргах, як несапраўдныя.

Іван Крук у сваім звароце просіць Упраўленне Вярхоўнага камісара ў Камітэце ААН па правах чалавека ў Жэневе разгледзець яго зарэгістраваную скаргу, якую ён паранейшаму падтрымлівае і дапаўняе дадатковымі аргументамі. Таксама праваабаронец просіць Камітэт рэкамендаваць кіраўніцтву Рэспублікі Беларусь вярнуць яму спагнаны з пенсіі штраф і судовыя выдаткі з улікам індэксацыі.

Ваўкавыскі грамадскі актывіст Віталь Гуляк **15 красавіка** адзначыў выхад на волю палітзняволеных Андрэя Саннікава і Зміцера Бандарэнкі вывешваннем бел-чырвона-белага сцяга на балконе сваёй кватэры. Праз некалькі гадзін у дзверы яго кватэры стаў грукацца нейкі п’яны хлопец, які брыдкасловіў і пагражаў Гуляку расправай. Потым ён знік, але праз пятнаццаць хвілін у кватэру актывіста заявіліся трох міліцыянтаў, якія прапанавалі праехаць з імі для разбіральніцтва.

Гарадзенскія грамадскія актывісты Юрый Істомін, Уладзімір Хільмановіч і Вадзім Саранчукоў падалі ў суд Ленінскага раёна гораду на рашэнне мясцовага гарвыканкаму ад **19 сакавіка 2012 году №247 “Аб правядзенні мітынгу”.** Гарадзенскі гарвыканкам адмовіў грамадскім актывістам у правядзенні мітынгу **25 сакавіка**, прымеркаванага да гістарычнай даты – Дня Волі. Заяўнікі мітынгу вырашылі аспрэчыць гэтую пастанову ў судзе.

**12 красавіка** бягучага году суддзя Людміла Жукоўская разгледзеўшы матэрыялы па скарзе на дзеянні дзяржаўнага органу, сфармулявала вызначэнне. Судовы працэс адбудзецца ў траўні.

Улады Гародні забаранілі правесці ў абласным цэнтры пікет, прымеркаваны да чарговай гадавіны аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Пра гэта старшыня гарадзенскай гарадской арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Аляксандра Васілевіч даведалася не з афіцыйнай інфармацыі гарвыканкама, а ад участковага, які з'явіўся папярэдзіць яе аб адміністрацыйнай адказнасці за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве, Актывісты АГП планавалі правесці пікет **26 красавіка.** У час акцыі заяўнікі мелі намер ушанаваць памяць ахвяраў катастрофы, а таксама прыцягнуць увагу грамадскасці да пытанняў ядзернай бяспекі і экалогіі ў кантэксце будаўніцтва Астравецкай АЭС.

**22 красавіка** гарадзенскія грамадскія праваабаронцы Віктар Сазонаў і Уладзімір Хільмановіч, якія вярталіся з Вільні дамоў, былі затрыманыя мытнікамі на памежным пераходзе Прывалка. Мытнікі знайшлі ў торбе праваабарончую літаратуру, у прыватнасці кніжкі “Наша вясна”, пасля чаго аўтамабіль, на якім ехалі грамадскія актывісты, быў дагледжаны з асаблівай дбайнасцю. Мытнікі правялі

# Хроніка правапарушэнняў

## *Гарадзеншчына, красавік*

асабісты дагляд Сазонава і Хільмановіча і доўга афармлялі паперы. Усё гэта доўжылася з сямі гадзін вечару да поўначы. Урэшце быў складзены пратакол “затрымання” кніжак “Наша вясна” і фотаальбомаў, прысвечаных палітвязням і падзеям плошчы **19 снежня 2010 году.** Былі забраныя таксама два дыскі з дакумантальным фільмам “Прычына смерці – прочырк”. Цягам месяцу павінна адбыцца экспертыза гэтых матэрыялаў. Пасля 5 гадзін трымання на мяжы Сазонава і Хільмановіча ўрэшце а палове першай ночы ўпусцілі ў краіну.

Слонімскі райвыканкам адмовіў сябрам Слонімскага дэмакратычнага згуртавання праводзіць у Слоніме **26 красавіка** пікет, прысвечаны аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Сябры дэмакратычнага згуртавання звярнуліся ў Слонімскі райвыканкам другі раз. Але Слонімскі райвыканкам нават не прыняў заявы наконт правядзення пікету **26 красавіка**. За подпісам усё таго ж Паўлюкевіча, паведамляецца (тэкст падаецца згодна арыгіналу): “Слонімскі раённы выканаўчы камітэт паведамляе, што ў лісце ад **6 красавіка 2012 года № 02-03/М-247** дадзена Вам тлумачэнне па пытанню патрабаванняў, якія прад’яўляюцца заканадаўствам, і афармленню заяў на правядзенне масавых мерапрыемстваў. Таксама вам указана на тое, што ў абавязальніцтве, якое дадаецца да заявы, неналежным чынам указана дата правядзення масавага мерапрыемства, у час правядзення каторага Вы прымаеце на сябе абавязацельства па яго арганізацыі і правядзенні. Такая самая неадпаведнасць дапушчана Вамі паўторна ў звароце ад **10 красавіка 2012 года № М-1/08-29** у абавязальніцтве, якое Вы дадаеце да заявы. На аснаванні часткі 7 артыкула 5 Закона РБ “Аб масавых мерапрыемствах”, артыкула 17 Закона РБ “Аб асновах адміністратыўных працэдур” Вам адмоўлена ў прыняцці заявы на правядзенне масавага мерапрыемства (пікету) **26 красавіка 2012 года** ў гарадскім парку г.Слоніма. …”. Пасля гэтага сябры Слонімскага дэмакратычнага згуртавання напісалі калектыўны зварот у Слонімскі райвыканкам. **17 красавіка** старшыня Слонімскага райвыканкама Іосіф Паўлюкевіч напісаў адказ на зварот слонімцаў. Але ў гэтым адказе — няма адказу на пытанні.

**26 красавіка** адбылісяператрусы ў кватэрах астравецкіх грамадскіх актывістаў. У Івана Крука канфіскавалі 283 экзэмпляры газэты «Голос разума». Ператрус прайшоў і ў доме Міколы Ўласевіча ў вёсцы Варняны Астравецкага раёну, але гаспадара дома не было.

Паводле Івана Крука, ператрус у ягонай кватэры адбыўся пасля таго, як з Астраўца ад’ехаў лідар АГП Анатоль Лябедзька з сябрамі партыі, якія праводзілі сустрэчы з жыхарамі Астравецкага раёну. Крук лічыць, што спецслужбы ўчынілі ціск на мясцовых актывістаў, каб яшчэ раз іх запалохаць. Уласевіч у гэты час быў на мітынгу ў Менску, а дома была толькі хворая жонка.

**27 красавіка** ў горадзе Бярозаўка (Лідскі раён) міліцыянты затрымалі мясцовых актывістаў Партыі БНФ і Руху "За Свабоду" Сяргея Трафімчыка і Вітольда Ашурка. У іх забралі 800 асобнікаў газеты “Новы час”. Актывістаў завезлі ў мясцовы пастарунак і склалі акт пра канфіскацыю накладу газеты. Супрацоўнікі міліцыі хацелі ўзяць у Трафімчыка і Ашурка тлумачэнні, але яны адмовіліся іх даваць. Па-першае, ніякіх абвінавачванняў актывістаў у правапарушэнні не было, а па-другое Трафімчык і Ашурак ёсць афіцыйнымі грамадскімі распаўсюднікамі выдання.

**28 красавіка** забіранне ў бярозаўскіх актывістаў 800 асобнікаў газеты “Новы час” мела свой працяг. **28 красавіка** прыблізна а палове пятай дня дахаты да грамадскага актывіста Сяргея Трафімчыка заявіліся міліцыянты з пастановай пракуратуры на агляд памяшкання. Яны шукалі друкавальную апаратуру. Самога Трафімчыка ў гэты час дома не было. У прысутнасці сведак міліцыянты склалі пратакол, што па месцы жыхарства Трафімчыка друкавальна-памнажальнай тэхнікі не выяўлена і з тым зышлі.

Грамадскі актывіст з Варнянаў Мікалай Уласевіч працягвае дамагацца ад мясцовай улады законнасці. ¨н разам з іншым астравецкім праваабаронцам Іванам Круком накіравалі адмысловую заяву генеральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь. А **28 красавіка** Уласевіч наведаў начальніка Астравецкай міліцыі. Актывіст патрабаваў дакументаў па факце ператрусу **26 красавіка** ў яго доме. Сам Мікалай Уласевіч у той дзень быў на “Чарнобыльскім шляху” у Мінску. Агляд у доме на прадмет пошуку друкаванай прадукцыі праводзілі ў прысутнасці жонкі актывіста. У выніку да канца невядома, што забралі прадстаўнікі міліцыі і магчыма спецслужбаў. Начальнік раённай міліцыі паказаў Уласевічу толькі пастанову на правядзенне ў хаце агляду. Іншых папераў у яго, праўдападобна, і не было. У такой сітуацыі Мікалай Уласевіч напісаў скаргу пракурору Астравецкага раёну. Актывіст перакананы, што ніякіх законных падстаў праводзіць ператрус у яго доме не было, а такія дзеянні сілавых структураў ёсць палітычным пераследам за яго актыўную дзейнасць у грамадскай ініцыятыве “Астравецкая атамная – гэта злачынства”.

Грамадскі актывіст Мікола Уласевіч адбараніў сваё права ў судзе касацыйнай інстанцыі Гарадзенскай вобласці. На ягоныя законныя звароты ва ўстановы нагляду для праверкі дзейнасці бізнесоўца Андрэя Дзятко з старшынём Астравецкага райвыканкама Адамам Кавалькам паступіла скарга. Яе адмяніла калегія абласнога суда. Суд прыняў адзінае правільнае рашэнне, спыніўшы справаводства. Абставіны былі высветлены ў судзе першай інстанцыі правільна, аднак не быў правільна ўжыты закон як матэрыяльны, так і працэсуальны. Кіраўнік прыватнага прадпрыемства “Дзядко-строй” Андрэй Дзятко так і не здолеў пераканаць суд, што Мікола Уласевіч абразіў яго сваім зваротам. Матэрыяй падачы скаргі стаў даслоўны пераказ вынікаў следства па фактах праверкі, што старшыня Астравецкага райвыканкаму Адам Кавалько лабаваў прадпрыемства Дзятка, як падрадчыка.

# Асцярожна, злы кот!

***Дзень пачаўся як заўжды. Найперш залез на некалькі сайтаў, паглядзеў што робіцца на свеце і ў Беларусі. Дазнаўся, што ўчарашні дзень, першага красавіка, які ў нас называюць днём дурня або днём гумару, прайшоў не так весела, як у мінулыя гады. Таксама даведаўся, што кіраўнік Беларусі ўжо другога красавіка паслаў віншаванні свайму расійскаму калегу з нагоды Дня яднання народаў Беларусі і Расіі, дзе запэўніў, што працяг курсу на далейшае паглыбленне інтэграцыйных працэсаў цалкам адпавядае інтарэсам грамадзянаў Беларусі і Расіі.***

Пасля прагледзеў афіцыйную беларускую прэсу. Даведаўся, што кепскага робіцца на свеце і як добра жывецца ў Беларусі. Аказваецца, віншаванні беларускага кіраўніка былі накіраваныя не толькі дзеючаму лідэру Расійскай Федэрацыі, але і будучаму кіраўніку гэтай жа Федэрацыі, і старшыню Савета Федэрацыі Федэральнага Сходу Расійскай Федэрацыі, і старшыню Дзяржаўнай Думы Федэральнага Сходу Расійскай Федэрацыі, ды іншым палітычным дзеячам ад той жа федэрацыі. Усюды гучыць тая "федэрацыя" і "палітычныя дзеячы" ад яе. Толькі двум павіншаваным не дапісалі прыстаўкі "федэрацыя". Дзяржаўнаму сакратару саюзнай дзяржавы, а таксама Патрыярху Маскоўскаму і ўсяе Русі.

Узнікла адно пытанне: "З якіх часоў і для чаго Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі ўблыталі ў палітычныя дзеячы?". Можа для таго, каб словы "Расійская Федэрацыя" можна было замяніць паўсюдна на словы "Маскоўскаму і ўсяе Русі?" І будзе тады віншаванне прэзідэнту Маскоўскаму і ўсяе Русі. Гучыць прыгожа, і праўдзіва. Ці віншаванне старшыню Савета Маскоўскага і ўсяе Русі. І гэтак далей.

З такімі думкамі я адклаў газеты і палез у фэйсбук. І там убачыў фотаздымак, пад якім быў надпіс: "Прыгожа зачынім тэму першага красавіка добрым прыемным жартам". А на фотаздымку чорны кот, які глядзіць праз плот. А на плоце прыбітая шыльда з папераджальным надпісам: "Асцярожна, злы кот".




Настрой крыху падняўся ад міжвольнай усмешкі. "Асцярожна, злы кот". Штосьці ў гэтым ёсць. Надпіс падыходзіць і на дзень гумару, і на наступны. Падумалася: "У людзей як у людзей. Ім аднаго дня дурня ў год дастаткова. У нас жа першага красавіка, дзе нібыта трэба жартаваць і смяяцца, плаўна пераходзіць у Дзень яднання народаў Беларусі і Расіі, другога красавіка, дзе нібыта таксама трэба радавацца, хоць невядома чаму".

Задаў у фэйсбуку пытанне: "У які дзень нашым народам трэба смяяцца, а ў які плакаць? Ці ў абодва дні смяяцца?" Атрымаў адказ у стылі першага красавіка: "Друг друга" бачыць здалёк". А адзін знаёмы адказаў на гэтае пытанне простым беларускім жартам: "Не ведаю, ці трэба радавацца, але смяяцца дакладна трэба. Бо жывём міла, як кот з сабакам".

Сапраўды. Пасля так званага аб'яднання, скандалаў паміж Беларуссю і Расіяй было як у ката з сабакам. І газавыя, і малочныя, і халера ведае якія. Адзіная ўзаемная любоў прасочваецца хіба толькі ў прызнанні выбараў адзін у другога. Бо тут інтарэсы супадаюць. А па за гэтым ідзе жорсткае супрацьстаянне. Бо "федэрацыя" хоча стаць "усей Руссю", а на "не ўсей Русі" не жадаюць быць губернямі "федэрацыі". Проста хочуць па-сяброўску дзяліць прыродныя багацці.

Ды вось "федэрацыя" пад ласкавае кацінае мурлыканне пра ўзаемную любоў пачала патрабаваць платы за сяброўства. Маўляў, раней мы вам за братнюю любоў давалі што вам трэба, а цяпер вы нам, калі ласка, давайце што трэба нам. І віншаванняў расійскіх палітычных дзеячаў з прыстаўкай "федэрацыя" ужо мала. Пара іх віншаваць з прыстаўкай "Московскому и всея Руси, и прочее, прочее, прочее…".

Самы час падумаць пра тое, што рабіць з гэтым святам, каб з віншаваннямі не патрапіць у нямёкае становішча. Можа ўвогуле адмяніць? Хопіць нам і першага красавіка пасмяяцца. І на ўсходняй мяжы, у дзень дурняў, да памежнага слупа прыбіць шыльду з папераджальным для ўсіх беларусаў надпісам: "Асцярожна, злы кот". Толькі вось памежны слуп, дзеля існавання свята другога красавіка, выкапалі і выкінулі.

*Віктар Сазонаў*

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на травень 2012 году

**2 траўня**

95 гадоў таму (1917) нарадзіўся Фелікс Шунейка, беларускі майстар мастацкага ткацтва. З 1949 г. жыў і працаваў у Гародні.

**3 траўня**

Сусветны дзень свабоды друку

290 гадоў таму (1722) – У Дзятлаве нарадзіўся Станіслаў Радзівіл, дзяржаўны і вайсковы дзеяч ВКЛ.




**5 траўня**

110 гадоў таму (1902) – У в. Трашчыцы (Карэліцкі р-н) нарадзіўся Мікола Гарошка, дзеяч эміграцыі (ЗША), першы старшыня БАЗА.

**15 траўня**

100 гадоў таму (1912) – У в. Чамяры (Слонімскі р-н) нарадзіўся Анатоль Іверс (сапр. Іван Міско), беларускі паэт.

**18 траўня**

Міжнародны дзень музеяў.

**19 траўня**

220 гадоў таму (1792) – Каля Міру адбылася бітва беларуска-літоўскіх харугваў з расейскімі захопнікамі.

**20 траўня**

105 гадоў таму (1907) – У в. Новая Каменка (Наваградзкі р-н) нарадзілася Ванда Банішэўская, сястра супольнасьці Сёстры ад Анёлаў, носьбітка стыгматаў, вязьня ГУЛАГу.

**22 траўня**

220 гадоў таму (1792) – Ашмяны атрымалі герб.

**23 траўня**

45 гадоў таму (1967) – У Чыкага (ЗША) памёр Мікола Дзямідаў, вайсковы, грамадзка-палітычны дзеяч. У 1943 акруговы школьны інспектар, арганізатар батальёну беларускай самаахovы ў Лідзе.

**24 траўня**

Дзень славянскай пісьменнасьці.

635 гадоў таму (1377) – Памёр Вялікі князь ВКЛ Альгерд.

**25 траўня**

220 гадоў таму (1792) – Геранёны атрымалі герб.

95 гадоў таму (1917) – Памёр Максім Багдановіч, беларускі паэт, перакладнік, крытык. Пахаваны ў Ялце на старых гарадскіх могілках. У Гародню пераехаў з бацькамі ў год нараджэньня.

75 гадоў таму (1937) – У в. Янаўшчына (Зельвенскі р-н) нарадзіўся Сяргей Сідар, беларускі географ, педагог.

**27 траўня**

75 гадоў таму (1937) – У в. Мілявічы (Мастоўскі р-н) нарадзіўся Міхась Біч, беларускі гісторык.

**30 траўня**

150 гадоў таму (1862) – У Наваградку нарадзіўся Мікалай Лявонцьеў, вайсковец, падарожнік, дыплямат. Быў графам Абісінскай імперыі.

*Кожны аўторак у эфіры незалежнай радыёстанцыі “Радыё Рацыя” - праграма “Людзьмі звацца!”, якая асвятляе падзеі, датычныя правоў чалавека на Беларусі. Час выхаду ў эфір – 15-05 (паўтор - серада 0:05-1:00 і субота 7:05-8:05). Таксама ў гэты час яе можна слухаць праз інтэрнэт на сайце*

**www.racyja.com**

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце*

**www. spring96.org**




*На сайце*

**www.palitviazni.info**

*вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі*

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце*

**www.harodniaspring.org**



*Праваабарончая інфармацыя з іншых рэгіёнаў Беларусі:*

**Берасце - www.brestspring.org**
**Віцебск - www.vitebskspring.org**
**Гомель - www.gomelspring.org**
**Магілёў - www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны
бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку:
красавік 2012
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры перадруку спасылка
абавязковая

